Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 27. Вільня, Аўторак 31 Жніўня 1926 г. Год II.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
Вільня, Полацкая вул. 4. — (Wilno, ulica Polocka 4).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 6 гадзіны апрача сьвята.
Газэта выходзіць раз у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц 1 зл., на 3 мес.—2 зл., на 6 мес.—4 зл., на год—8 зл.
Перамена адрэсу 30 гр.



ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Беларуская эміграцыя ў ССРР.

У папярэднім (26) нумары „Сял. Нівы“ ў вадзьдзеле „із заграніцы“ была перадрукавана із „Савецкае Беларусі“ вестка аб „Т-ве палітычных эмігрантаў із Заходняе Беларусі“.

Чаму гэта ў той час, калі па ўсім сьвеце ёсьць міліёны ўцекачоў із ССРР (Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік), Беларусы ўцякалі як раз ў гэты ССРР? Што за дзіўны народ гэтыя Беларусы? Чаму гэта лезуць яны на бальшавізм як мухі на мёд? Але гэтакія пытаньні могуць зьявіцца толькі ў чужніка. У Беларуса, а тым балей у заходняга Беларуса, яны ня зьявяцца. Мы добра ведаем, што не з дабра апынуліся тамака нашыя браты. І не навіна нам, што яны там ёсьцека, бо ёсьць яны тамака не ад сягодняшняга дня.

Эміграцыя беларуская да бальшавікоў узьнялася ў 1921 годзе, г. зн. посьле рыскага міру, павялічылася яна ў 1922 і асабліва ў 1923 г., зьменшаная і сьцісьненая адбываецца дагэтуль. Сталася гэта з тае ведамае ўсім прычыны, што адных ураднікаў Беларусаў аддалялі із службы, іншых на службу ня прыймалі, што новых беларускіх школаў не дазволілі адчыняць, а старыя зачынілі. Гэтаю безработнаю і галоднаю інтэлігенцыю не пакінулі ў супакою, не далі ёй паглядзець сабе іншага куска хлеба. Не, іх абставілі хмарамі яўнае і патайное паліцыі і стварылі гэтакі рэжым, якому й Туркі маглі-б пазавідаваць. Уціск не абмежыўся якімісь, хоць-бы вялізарнымі групамі, не абмежыўся на'т беларускай інтэлігенцыяй і паўінтэлігенцыяй, а абхапіў усё чыста жывое беларускае. Але гэта яшчэ не патрапіла-б выгнаць гэтулькі Беларусаў у чужы ССРР. На помач Палякам прыйшла іншая немач. У атмосфэры польскага рэжыму ў Зах. Беларусі вырасла краска, якая толькі магла ў ім вырасьці. Краскаю гэтаю была бальшавіцкая ідэолёгія. З краскі з часам вырасла запраўдная ягадка—так званая „Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада“. Не бальшавікі яны, не камуністыя, але шчырыя і, на жаль, сьляпыя спагаднікі іхнія. Выходзячы з таго прымітыўнага ні то пагляду, ні то пачуцьця, што калі ў Палякоў блага, дык у непрыяцелеў польскіх мусіць быць добра, яны стварылі цэлаю ідэолёгію, прыймаючы за чыстае зярнё фікцыю на 99% беларускай працы ў Радавай Беларусі. Калі-ж дайшла справа да пашырэньня Радавае Беларускае Рэспублікі, захопляньню гэтаму ня было канца. Ня можам сказаць, каб гэтае захопленьне не перадавалася іншым Беларусам, не зачэпленых дагэтуль бальшавіцкай немачай. Праводзілася ў праводзіцца дагэтуль гэтая палітыка із шчырасьцяй мала дазнанага ў палітыцы сялянскага народу. Гэтая шчырасьць і прасьціня вызывае ўсьмешкі ў багатшых за нас жыцьцёвым дазнаньнем народаў.

Вось-жа нашыя спагаднікі бальшавіцкія бязустанку трубілі аб бальшавіцкім шчасьцю, а гэта ў сувязі з польскім уціскам зрабіла тое, што Беларусы тысячамі паперлі ў ССРР. Паўцякалі ўраднікі, тысячамі ўцякала вучыцелства і інш. Апошнімі часамі сыстэматычна ідуць туды на стыпэндыі матурысты з 4-х беларускіх гіммазіеў, бо дзьверы ім у польскія высокія школы зачынены. Гэтыя пераходы бываюць часта так адкрыта, што шмат у каго родзіцца падазрэньне, што польская ўлада з гэтага цешыцца і не перашкаджае гэтаму, каб пазбыцца беларускай інтэлігенцыі ў Зах. Беларусі. А калі прымем пад увагу, што „Бел. Сял.-Работ. Грамада“ ёсьць пад уплывам „Niezależnej Partji Chłopskiej“ з п. Ваяводзкім на чале, аб якога камуністычным спагадзе можна вельмі сумлявацца, дык справа з падазронай робіцца страшнай...

Але бальшавіцкія спагаднікі вельмі абмыліліся. Яны не зацемілі таго, што проціложным паўночнаму полюсу ёсьць полюс паўдзённы і на абодвых зь іх аднолькава сьцюдзенна. Гэтак аказалася й тутака. Наўперад „пашырэньне“ аказалася толькі „збуйненьнем“; дробнаю з пяцёх паветаў „Беларускаю Рэспубліку“ „збуйнілі“ некалькімі новымі паветамі. Тут праявілася тая-ж фікцыя, разьлічаная на агітацыю, як і пры „беларусізацыі“ і шмат чым іншым. Уперад, чым прылучыць Віцебшчыну й Магілеўшчыну, іх падзялілі. Значныя часткі Магілеўшчыны і Віцебшчыны прылучылі да Смаленшчыны, а тры паветы Віцебшчыны яшчэ і да Пскоўшчыны, а потым голасна крычэлі аб прылучэньню да Беларускай Рэспублікі на'т Смаленшчыны. А тымчасам ня толькі Смаленшчына ня была зачэплена, але асталіся пад беспасярэднім загадам Масквы паўночная Чарнігаўшчына, значныя часьці Магілеўшчыны і Віцебшчыны і навет найвялікшы Рэчыцкі павет Меншчыны. Гэты апошні Масква, так сказаць, вырвала з-пад носу ў Менску. Гэта шмат каго зь Белрусаў, болей меней захопленых Радавай Беларусьяй абліло сьцюдзёнай вадою. *)

Але мы тутака хочам зьвярнуць увагу нашага сялянства на вялікі зьдзек, якога дапусьціліся бальшавікі над уцекачамі із Заходняй Беларусі. Пры думцы аб уцекачох із Заходняе Беларусі ў ССРР у кожнага само сабою зьяўляецца прадстаўленьне, што гэныя ўцекачы задзержыліся ў Радавай Беларусі. Бо дзе-ж ім задзержыцца, калі ня ў іншай часьці свае Бацькаўшчыны? А тымчасам не. Ані ў Менску, ані ў Гомелі і Магілеве, ані так-жа ў Віцебску і Смаленску нашае эміграцыі нямашака. Даволі перайсьці граніцу, як чалавека высылаюць найбліжэй у Маскву, а звычайна шмат далей.

Толькі адзінкі патрапілі зачапіцца ў Бацькаўшчыне. Рэшта ўсе высланы ў Маскоўшчыну. Дзе іх там нямашака... Ёсьць шмат і на Волзе, і ў Сібіры і ў Ленінградзе. Але цэнтрам усяе нашае эміграцыі ё Масква. Тутака ў 1924 г. зарганізавана цэнтральнае т-ва беларускіх палітычных эмігрантаў. Сёлета паводле „Сав. Беларусі“ маюць быць арганізаваны адзьдзелы т-ва ў Ленінградзе, Н.-Ноўгарадзе, Саратаве, Ульянаўску, Сібіры і інш. Усюды, толькі не ў Беларусі. У Беларусі Беларусу астацца ня можна. І на што Беларусаў пакідаць у іхняй Бацькаўшчыне?

„Беларусізацыю“ ў Беларусі праводзяць Маскалі, а беларуская павіннасьць мусіць маскаліць Маскоўшчыну. Там, дзе жыве дух беларускага народу, бальшавікі не пакідаюць Беларусаў-уцекачоў. Гэтак маскоўскія Аляксандры імкнуцца расьсякаці нацыянальныя вузлы. Тут усё тое-ж старое імкненьне—абмаскаліць Беларусь. Ня трэба казаць як церпяць нашыя ўцекачы на чужыне; церпяць яны ад голаду і ад непрызвычаеньня да клімату. Гэтак маскоўскія бальшавікі рассыпалі ўцекачоў беларускіх па бязьмежных прасторах ССРР. Маскоўскія камуністыя супольна з польскай уладай зрабілі із значнай часткі Беларусаў новых Жыдоў, з тэй толькі розьніцай, што Жыды могуць варочацца ў Палестыну, а Беларусы ня могуль вярнуцца ў Бацькаўшчыну.

Што-ж робіць „Грамада“, якая, як мы бачылі значна прычынілася да ўцекаў у ССРР? Што яна робіць, каб памагчы гору нашых уцекачоў? А нічагусенькі. „Грамада“ як і раней сьлепа расхваляе бальшавіцкія раі.

Але ці-ж не пара ахамянуцца і зразумець, што кіданьнем з агню ды ў прысак далёка не дойдзеш, што грамадаўская работа зьмяняе толькі хворму няволі, але самой няволі не касуе. Гэта ўжо зразумела частка людзёў, яны адышлі ад работы „Грамады“ і разам зь іншымі, што ад „Грамады“ заўсёды былі далёка, утварылі „Беларускі Сялянскі Саюз“. Калі грамадоўцы кажуць, што пад Польшчай блага, дык сяляне зусім із імі згаджаюцца, але ня могуць згадзіцца з тым, што пад бальшавікамі жывецца добра. Сяляне ня трацяць веры ў свае сілы і імкнуцца асвабадзіцца ад аднаго і другога зла. Гэта ня толькі сяляне Зах. Беларусі, але так сама і Беларусі Радавае. Што гэта нам удаецца, паказуюць прыклады іншых народаў. Гэта ня значыць, каб сяляне не хацелі мець у сваёй барацьбе прыяцелеў, хочуць іх мець, але запраўдных прыяцелеў, а ня непрыяцелеў, што прыкінуліся толькі прыяцельмі

*) Цяпер ідуць гутаркі аб пашырэньню Беларускае Радавае Рэспублікі на рэшту Магілеўшчыны (Гомельшчыны) і Віцебшчыны. Гутаркі гэтыя і астаюцца гутаркамі пакуль... Масква іх не забароніць. Ня гледзячы на тое, што, як не адноўчы зазначалі навет камуністычныя газэты (гл. так жа № 26 „Сял. Нівы“ ў вадзьдзеле „З Рад. Беларусі“), што Беларусь із гаспадарскага боку складае адну цэласьць, што на ўсім гэты прасторы жыве беларускі народ, які цяпер ужо і сьвядомы, Маскоўшчына проці злучэньня ў вадно беларускіх землеў.

**Беларусы, пасылайце свае дзеці у беларускія гімназіі!**

# З ГАЗЭТАЎ.

### Аб польскай рэспубліцы.

„Gazeta Warszawska Poranna“ з 8.VIII. друкуе тэлеграму з Масквы, што

„у кругох польскай камуністычнай партыі паўстаў праект выразаньня з часткаў УСРР і БСРР (Беларуская Сац. Рад. Рэспубліка) полькай рэспублікі. Маскоўская камуністычная партыя сустрэла гэты праект даволі спагадна. Але праект сустрэў заўзятую опозіцыю Украіны і дзеля гэтага ня прыняў конкрэтных хвормаў. Гутаркі, у якіх прыймае ўчасьце Сталін, вядуцца далей. Але Украінцы ня хочуць на гэта згадзіцца“.

Як ведама ў Радавай Беларусі ё найбалей 1½% не Палякоў, але болей меней спалячаных Беларусаў. І вось, ня гледзячы на гэта, ё плян ахвяраваць частку жывога цела Беларусі на штучнае насаджаваньне польшчыны. Што можа быць негаднейшага? Украінцы ўжо запротэставалі, але Беларусы маўчаць. Камуністыя беларускія надта паслушныя Маскве і можна спадзявацца, што яны на ўсё згодзяцца. Як ведама камуністыя-Беларусы залежаць ад Масквы, а ў Зах. Беларусі яшчэ й ад Варшавы. Дык усялякая камуністычная работа беларуская памагае гэтакаму выразаньню жывога цела Беларусі. А беларуская «Грамада», агітуючы за бальшавікоў, льле ваду на польскі млын. Дык няма дзіва, што з «Грамадою» сябруе гэтакая партыя шчыра польская, як „Niezależna Partja Chłopska“ пана Ваяводзкага.

Толькі само беларускае сялянства, незалежнае ад Масквы й Варшавы, зарганізаванае ў свой Беларускі Сялянскі Саюз, зможа само абараніцца і абараніць сваю зямлю ад хітрых і прагавітых чужнікоў.

### Аб злучэньню польскіх нацыяналістых із праваслаўем.

Руская газэта «За Свабоду» пісала ў № 167 і 176 аб злучэньню «польска-каталіцкага нацыянальнага касьцёлу» з праваслаўнаю царквою. Эміграцыйная газэта, ведама, піша аб гэтым вельмі асьцярожна, але ўсё-ж такі адемна. Газэта ня скрывае, што гэтае злучэньне можа быць для праваслаўных вельмі небясьпечнае.

Украінскае «Діло» № 174 бачыць у гэтым злучэньню імкненьне Палякоў узрываць праваслаўнаю царкву ізь сярэдзіны.

Польскія газэты, апроч каталіцкіх, адносяцца да злучэньня спагадна.

«Biełaruskaja Krynica» № 29 падае лічбу Палякоў што злучыліся з праваслаўнаю царквою на 1485 чал.

## Сьцеражэцеся чужых школаў!

*Вучы дзяцей ты родным словам,*
*Каб бацьку шанаваць умелі.*
К. СВАЯК. „Шляхам творчасьці“.

У прыведзеным вышэй адрыўку верша, як і ў шмат іншых думках Сваяковых, на першы пагляд маецца ўражэньне неяснасьці мысьлі. Што—здаецца мае супольнага мова выкладовая ў школе з пашанай да бацькоў? Аднак калі балей прызадумацца, то ў словах гэтых акажацца глыбокая жыцьцёвая праўда. Акажацца, што дзеці, асабліва беларускага селяніна, вывучаныя ў чужых школах, вышаўшы ў сьвет і лучыўшы ў іншую атмасфэру пачынаюць чурацца ня толькі сваей беларускай мовы, але і бацькоў сваіх. Пайшоўшы на службу ў чужое ім места, яны навет свае бебарускія прозьвішчы перакручуюць на чужы лад. А пагавары з гэтымі панамі! Большая частка, зь іх слоў, акажацца то з Кракава, то зь Ведані, а калі ўжо з Расеі, то абавязкава зь вялікім дваром. Як-жа! Бальшавікі ўсё забралі ды яшчэ расстралялі-б, каб із чэ-ка ня ўцёк. І каб чалавек ня ведаў, што бацька гэтага ягомасьця гаруе дзе ў Ашмяншчыне ці пад Ваўкавыскам на трох дзесяцінах—ахвотна даў-бы веру.

Калі прыгледзімся ў гісторыю жыцьця гэтых паноў, то абачым, што гэтых людзей-вырадкаў перш - наперш скалечыла *чужая школа*. На школьнай лаве ёй „даведаўся“, што Беларусы, гэта толькі асобная складовая частка таго ці іншага народу, што Беларусы, гэта нешта горшае нідачога нявдатнае і ня маючае свае гісторыі ані будучыні. Калі праз усю першую моладасьць будзе вось так вучыцель крывіць чыстую душу дзіцяці нашай вёскі, то ведама, што ў большасьці выпадкаў чуткая на ўплывы гэта душа набера перакананьня аб праўдзівасьці вучыцялевых словаў. Каму акажацца мала ўплыву вучыцеля і кніжкі тэндэнцыйна напісанай, таму паможа кляснае таварыства з дзяцьмі апалячанага мяшчанства вялікага места і панскіх сынкоў. І трэба моцнага хатняга ўплыву і сілы індывідуальнасьці, каб беларускі хлапец устаяў проціў гэтых цёмных сілаў.

Школы чужыя калечаць Беларусаў кожная па свойму.

Даўней маскоўскія вучэльві маскалілі нас, забівалі нашу беларускасьць, але не капалі такой клясовай пропасьці між людзьмі. Цяпер-жа польская школа ў „людовай і дэмакратычнай“ рэспубліцы затручуе душы нашых дзяцей сваёй найбольшай спрадвечнай хваробай—*панска шляхоцкім духам*. З гэтай школы яшчэ ня выведзеся дух пагарды да селяніна, гэта школа збудавана на фундамантах шляхоцкае ідэолёгіі і шляхоцкае літэратуры. Дарма вы ў польскай школе будзеце шукаць культу працы фізычнай. Ці-ж можна пасьля гэтага дзівіцца, што польскія студэнты рэакцыанеры і разганяюць работніцкія маніфэстацыі?

Каб пракапацца, што гэта так, прыраўнуй, браце, сяньняшнюю моладзь, якая вучыцца ў польскіх гімназіях і гімназіях беларускіх. Сын нашага селяніна з польскай гімназіі прыяжджаючы на вакацыі з VI—VII клясы да свайго бацькі, зь першага дня пакажа, што ён у роднай вёсцы *чужнік*. Яго ня цікавіць ані нашая мова, ані песьня, нашыя звычаі. Мала таго: ён староніцца сваіх даўнейшых сяброў, гаворыць папольску, бацькоў скрытна чураецца, а да працы фізычнай зусім робіцца ня здатны. Словам, расьце на вашых вачох кандыдат на пана.

Як толькі кончыць навуку такі вырадак, ён еа бацькоў крывавы грош на яго аддаваны, заместа падзякі і памогі бацьком па старасьць, вырачацца і бацькоў і радні. Дзьверы ягонай хаты будуць зачынены навет для таго, хто крывавым мазолём даў яму магчымасьць кончыць школу і здабыць нейкое становішча. Прыкладаў шукаць ня трэба. Спаткае іх часта кожны, хто прыглядаўся на лёс моладзі, што пайшла ў места на навуку ў чужыя школы.

Якая-ж вялікая розьніца даецца бачыць у нашых беларускіх гімназіях. Мы тымчасам можам гаварыць толькі аб гімназіях, бо іншых школаў, як нішшых, так вышшых нам адчыніць не даюць. Праўда, мы ня можам сказаць, што ў нашых гімназіях парадкі ідэальныя, што і вучыцялі на сваім мейсцы і што пануе там культ працы і добрае ўзгадаваньне. Ня гледзячы на шмат якія заганы, адно кідаецца ў вочы: вучань беларускае гімназіі ня толькі ня робіцца рэнэгатам (вырадкам), але становіцца шчырым патрыотам-Беларусам, ня чураецца свае мовы, шануе сваіх бацькоў і ў будучыні напэўна будзе апорай бацькоў на старасьць. Гадунец беларускай школы не дапусьціць каб бацькі яго праклялі, што сын іх выракся, бо свая школа душы не скалечыць.

Дык ведайце-ж, бацькі Беларусы, што калі станеце перад пытаньнем, куды паслаць дзіця на навуку, сьцярэжэцяся як агню чужой школы і пасылайце ў свае беларускія гімназіі. Праўда, не даюць яны правоў паступаць у вышэйшыя вучэльні ў Польшчы, але ня сягоньня заўтра мы такое права здабудзем і гадунцы нашых гімназіяў ня будуць мець неабходнасьці ехаць заграніцу. Пашлеш, Беларусе, сына ў сваю гімназію, зробіш добра ня толькі сыну, але і сабе, бо сын аб табе не забудзіцца на тваю старасьць.

*Р. Ставіч.*

## З партыйнага жыцьця.

З прычынаў тактычнага характару Беларускі Сялянскі Саюз ня друкуе сьпіску закладзеных гурткоў. Але калі-б камітэты некаторых гурткоў захацелі, каб аб іхніх гуртках было абвешчана, дык аб такіх гуртках будзе друкавацца.

Бяз гэтакага жаданьня Саюз будзе разглядаць кожны гурток асобна і магчыма абвяшчаць у тэй ці іншай форме зарганізаваньне яго.

*Цэнтр. Камітэт Бел. Сял. Саюзу.*

Вільня, 20.VIII.1926.

## Споўніце сваю павіннасьць!

„Сялянская Ніва“ цьвёрда бароніць правы і інтарэсы беларускага сялянства і беларускага народу наагул. Дзеля гэтага павіннасьць кожнага селяніна і кожнага Беларуса выпісаць сваю газэту „Сялянскаю Ніву“ і акуратна прысылаць грошы на падпіску. Хто неакуратна прысылае грошы на падпіску, той ставіць у цяжкое палажэньне рэдакцыю, бо няма тады за што выдаваць газэту.

Няхай усе нашыя чытары рупяцца акуратна прысылаць грошы на падпіску і пастараюцца знайсьці паміж сваімі знаёмымі новых падпісчыкаў, тады газэта стане на цьвярдзейшы грунт і цана яе можа быць зьменшана.

*Рэдакцыя „Сялянскай Нівы“.*

## Гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

6. У м. **Любчы**, Наваградзкага пав. зарганізаваны Любчанскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

7. У м. **Іказьнь**, Браслаўскага пав. зарганізаваны Іказьненскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

8. У м. **Новая-Мыш**, Баранавіцкага павету зарганізаваны Новамыскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

9. У м. **Ружана**, Косаўскага пав. зарганізаваны Ружанскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

10. У в. **Рудаўка**, Межав. вол., Слонімскага пав. зарганізаваны Рудаўскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

11. У в. **Гайнін**, Мядзьведзіцкае вол., Баранавіцкага пав. зарганізаваны Гайнінскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

12. У в. **Нова-Руткавічы**, Карэліцкае вол, Наваградзкага пав. зарганізаваны Новаруткаўскі Гурток Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

13. У в. **Жодзішкі**, Вялейскага пав. зарганізаваны Жодзіскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

14. У в. **Гайнаўка**, Бельскага пав. зарганізаваны Гайнаўскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

*Закладайце ўсюды Гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры!*

Згодна із статутам Інстытуту гурток паўстае ў кожнай мясцовасьці, дзе знойдзецца хоць тры асобы, жадаючыя закласьці гурток. Гэтыя тры асобы павінны падаць у Бел. Інстытут Гасп. і Культуры (адрэс: Wilno, Zawalna 7—8) заяву з просьбай адчыніць у іх мясцовасьці (вёсцы, местачку) гурток. У заяве павінны быць пададзены кандыдаты за старшыню, скарбніка і пісара (сэкрэтара) Гуртка, а так сама адрэс сялібы Гуртка.

## Із Заходняе Беларусі.

### Лісты.

#### Лясьнік б'е дзяцей.

(Вішнева, Валожынскага пав.).

Сёлета ў пачатку жніўня ў Букатоўскім лесе лясьнік Скаўронак задзержыў дзяцей ізь ягадамі, павысыпаў ягады, а каторыя дзеці не аддавалі, дык біў. Гэта відзелі людзі, што рабілі ў лесе. Яны, як кажуць, кінуліся да лясьніка і далі яму на памятку добра.

Скаўронак прысланы з Польшчы Паляк, дык няма дзіва, што зьдзекуецца над нашымі людзьмі. Мы ўжо прывыклі, што Палякі да нас палюдзку адносіцца ня могуць. Мусіць яны, як тыя мухі ў восень чуюць сваю недаўгавечнасьць. Але дзіўна што яму памагалі два нашыя—лясьнікі Купа з Букатова і Кулак із Жардэль. Яны нядаўна кінулі толькі клямкамі бразгаць у паноў, просячы службы, а цяперака памагаюць чужнікам зьдзекавацца над нашым народам. Няхай потым ня дзівяцца, калі сваю крыўду будуць сплачаваць.

*Явар.*

#### Сілком пхнуць польскія газэты.

(Смаргонская воласьць, Ашмянскага павету).

Нядаўна прыехаў сюды ў воласьць корэспондэнт польскай чарнасоценнай газэты „Głos Wileński“. Ен распытаваўся, дзе якія чытаюць газэты. Паміж іншым папытаўся і ў солтыса Яна Жабінскага із Шутавіч. Той адказаў, што ў іх вёсцы выпісуюць толькі беларускія газэты—„Сялянскаю Ніву“ і „Biełaruskaju Krynicu“. Якое-ж было дзіва, калі пасьле гэтага ў „Głosie Wileńskim“ было надрукавана, што ў Шутавічах чытаюць толькі „Głos Wileński“, а беларускіх газэт чытаць ня хочуць. Гэтак ён наманіў (налгаў) і аб іншых вёсках. З таго часу як паехаў ад нас гэны манюка (лгун) корэспандэнт, дык уся воласьць закідана „Gł. Wileńskim“; яго ў воласьці солтысам сілком (гвалтам) пхнуць і беруць грошы. Так сама пхнуць усім, хто прыйдзе ў воласьць зь якой патрэбай.

*Смаргонец.*

*Ад Рэд.*: Ніхто ня мае права прынукаць купляць польскія газэты.

## Беларусы у Лацьвіі.

Выйшаў № 3 месячніка земляробскай гаспадаркі і коопэрацыі „Гаспадар“.

### Гінэ беларускі мастак.

На хутары Вяршыны, Пасінскае вол. жыве 14-цёх годні хлапец Мацюшэнак, які з раньніх год выявіў сваю надзвычайную здольнасьць да маляваньня. Мацюшэнак вучыўся ўсяго два гады ў Шылаўскай беларускай пачаткавай школе, але па сваёй незаможнасьці—вучыцца далей ня змог і змушаны быў пакінуць вучэньне, каб заняцца працай на малым і няўродлівым кавалку зямлі, бо

хлапец ня мае бацькі і на яго плячох ляжыць утрыманьне сям'і. Час-ад-часу малады самародак кідае саху і бярэцца за малюнкі, каб здаволіць сваё імкненьне да мастацтва. Усе, хто бачыў працы маладога мастака, а іх ужо шмат, зьдзівяць яго талянавітасьці.

Ня шкодзіла-бы ўсім беларускім культурна-асьветным арганізацыям стварыць фонд памогі незаможным культурным беларускім працаўнікам.

Ня можна глядзець спакойна на тое, як самародкі беларускага народу губяць свой талент, змушаныя матэрыяльнымі абставінамі.

(„Гол. Бел.").

### Латыскі шовінізм.

Друкуючы Райнісаў пераклад на латыскую мову некалькі беларускіх вершаў, газэта „Jaunakas Žinas" дадала ад сябе зацемку (ўвагу). У гэнай зацемцы рэдакцыя старалася давесьці, што беларускія паэты з Лацьвіі ёсьць зьбеларушчаныя Латышы, бо быццам прозьвішчы іхнія латыскія. Зацемка напоўнена нацекамі (намёкамі) ўдавальнага характару. Да гэтакіх „зьбеларушчаных Латышоў" лучыла навет паэтка Палубейка родам з Горадзеншчыны. Іншымі двама „зьбеларушчанымі" аказаліся Бартуль і Воркуль.

На зацемку „J. Žinas" дала вельмі добры адказ беларуская газэта ў Лацьвіі „Голас Беларуса". Добра зазначыўшы, што калі кіравацца аднымі прозьвішчамі, дык Беларусы мелі-б забраць вельмі шмат у сваіх суседзеў, „Г. Беларуса" выясьніў, што „бартуль" пабеларуску значыць дажджавы чарвяк.

Дадамо ад сябе, што прозьвішчы і наагул словы на *—уль* ужо дзеля таго беларускія, што маюць характэрна беларускі суфікс *—уль*. Гэты суфікс найчасьцей знаходзім у собскіх людзкіх імёнаў зьмяншальных. Але можа быць ня толькі ў собскіх і ня толькі ў зьмяншальных. Гэтак ад „Вінцэнты" зьмяншальныя будуць *Вінцук* і *Вінцуль*; ад Вайцех—Вайцюль. Ад Бартламей было-б *Бартуль*, але можа гэта быць і ад „*борць*" (дзерава з пшчоламі); гэтак-жа чарвяк, што меў якіясь адносіны да *борці* быў названы *бартулём*. Адгэтуль і прозьвішча. Гэты-ж суфікс у асноваў на *—а* мае выгляд *—ля*: матуля, сяструля, бядуля, татуля, дзядуля і г. п.

*—іч.*

# НАВІНЫ.

**— Новыя беларускія кніжкі.** Зьявіліся ў прадажы ў Віленскіх беларускіх кнігарнях новыя кніжкі: 1) пад наз. „Бартэк пераможнік" Г. Сенкевіча. Пераклаў на беларускаю мову Краўцоў Макар. Бал. 83 малога фармату. Цана 80 гр.

2) „Першыя крокі" зборнік вершаў маладых беларускіх паэтаў у Лацьвіі. Бал. 85, цана 2 зал. 70 грошаў.

**— Нарада аб школах т. зв. нацыянальных меншасьцеў.** Т-ва Беларускае Школы, Літоўскае Асьветнае Т-ва „Rytas", Жыдоўскі Цэнтральны Камітэт Асьветы і Злучэньне Школаў Жыдоўскіх зрабілі 23 жніўня ў залі Літоўскага Клюбу нараду, на каторую папрасілі і выдатных польскіх дзеячоў—дэмакратаў. Нарада была пад старшынствам кс. Краўяліса. Рэфэраты аб школах прачыталі: ад Беларусаў дыр. Беларускае Гімназіі Астроўскі, ад Жыдоў Аронсон і ад Ліцьвіноў Будрэвіч. Трэба адцеміць, што жыдоўскі рэфэрат быў у некаторых мясцох даволі дзіўным. Сам назоў жыдоўскага рэфэрату быў „Аб жыдоўскіх школах у Польшчы і ў Віленшчыне". Куды-ж тады залічыць іншыя беларускія землі—Наваградчыну і Горадзеншчыну, бо яны-ж ня Віленшчына і ня Польшча? Наагул надта тактычны да іншых п. Аронсон навет ня ведаў, што ёсьць на сьвеце Беларусь.

Па рэфэратах пачалася дыскусія. Было цікаўна даведацца адносіны Палякоў да школаў нацыянальных меншасьцеў. У прамовах мэц. В. Абрамовіча і пасла Хамінскага адчуваўся спагад і зразуменьне рэчы. Але прамова соцыялісты Годвода зазьвінела дзіўным дысонансам. Гэты панок не знайшоў сказаць нічога лепшага, як тое, што і польская школа ў нягодным палажэньню. Што польская школа мае шмат заганаў, гэта ўсім ведама, але раўнаваць яе палажэньне з палажэньнем школы беларускае гэта ўсё роўна, што раўнаваць багацьце чалавека, у якога разбойнікі зьдзерлі апошняю сарочку, з багацьцем міліянэра.

На нарадзе пастаноўлена выступаць у будучыні ў справах школьных супольна, каб дапяць у школьнай улады належных адносінаў да школьных справаў.

**— Адклад пачатку школьных заняткаў.** На падставе загаду міністэрства асьветы куратар віленскага школьнага вокругу падае да ведама, што з прычыны пагрозы пошасьці шкарлятыны, пачатак школьнага году ў сярэдніх школах, вучыцельскіх сэмінарыях і ўва ўсіх прафэсыянальных школах пачнецца сёлета 15 верасьня. Загад гэты адносіцца так-жа і да прыватных школаў. У сувязі з гэтым кураторыя зьвярнулася ў Дырэкцыю Чугунак аб прадаўжэньні важнасьці вучнёўскіх легітымацыяў і палёгкавых білетаў.

**— Адносіны да Ліцьвіноў.** Лідзкі інспэктар ня прыймае заяваў на адчыненьне літоўскіх школаў, калі перад гэтым павятовы лекар не аглезіў дому пад школу. Але лекар згаджаецца ехаць толькі за вялікаю плату. Гэтак за выезд да найбліжэйшае вёскі Плікі, Жырмунскае воласьці захацеў 100 залатовак. Ліцьвіны падалі ў гэтай справе мэмарыял прэм'еру Бартлю.

**— Новы дырэктар Літоўскай Сэмінарыі.** Школьныя ўлады на йдучы год назначылі дырэктарам літоўскай вучыцельскай сэмінарыі ў Вільні кс. Чыбіраса.

**— Правы вайводам.** Міністэрства Унутраных Справаў надзяліла віленскага вайводу правам распушчаць валасныя рады. Пастанова вайводы ў гэтай справе лічыцца канчальнай.

**— Паліцыянтаў будуць вучыць беларускую мову.** На паліцыйных курсах для „przodowników" паміж іншымі прадметамі мае быць уведзена і беларуская мова. Дзеля чаго гэта робіцца—дагадацца трудна, бо паліцыянтам, як чуваць, гаварыць пабеларуску забаронена.

**— Звольненыя паліцыянты бандытамі.** Надовячы віленскі апэляцыйны суд разглядаў справу бандытаў, якія раней былі паліцыянтамі і абвінавачаных у рабунках, а так-жа ў забойстве В. Котлікоўскай. Апэляцыйны суд кару зьменшыў засуджываючы Ленартовіча на 3 гады турмы, Гейбу і Барэйку на адзін год, а іншых на 3 гады папраўчага дому.

**— „Удача" Марозава, але на паперы.** Панская газэта „Słowo" з дня 26 жніўня паведаміла быццам 29 г. м. пераходзіць на марозаўскую „вунію" 13 праваслаўных. Аказуецца, што ніякага пераходу на гэты дзень ніхто не спадзяецца; такім парадкам вестка „Słowa" зьяўляецца звычайнай выдумкай.

**— Ці новы марозавец?** А. Леснабродзкі, што перайшоў на вунію (мусіць марозаўскаю) назначаны ў Аўгустыянскі касьцёл.

Леснабродзкі ё сьвяшчэньнікам усяго 4 гады. Раней ён служыў у рускай коньніцы, а потым быў начальнікам штабу ў Балаховіча. У самахотніцкай арміі (Дзенікіна) Леснабродзкі камандаваў каральным адзьдзелам.

(„Віл. Утро").

# Із заграніцы.

### Зямельная рэформа ў Ліцьве.

Да 1925 г. разьдзелена было зямлі сялянам 418 тысячаў гэктараў, сёлета назначана парцэляцыю 100 тысячаў гэктараў. Астаецца на разьдзел пасьлей 200 тыс. гэктараў. У Ліцьве дастае зямлю мясцовае сялянства, а ня чужнікі-асаднікі, як у Зах. Беларусі, што пад Польшчай.

### Проці тэрору ў Польшчы.

Вядомы францускі пісьменьнік Анры Барбюс выступіў із адозваю проці тэрору ў Польшчы. Ен прыводзе гэткія лічбы: ад красавіка 1925 году да лютага 1926 г. арыштавана адзінаццаць тысячаў чалавекаў, з гэтых арыштаў інсцэнізавана 281 палітычны працэс. У 341 турме ё 32 тысячы вязьнеў, хоць урадовыя дадзеныя паказуюць лічбу турмаў на 40, а лічбу вязьнеў на 1476 асобаў.

### Выступленьне англіцкіх работнікаў проці Польшчы.

Незалежная англійская партыя работніцкая выдала 27.VIII. маніфэст, у якім зварочуе ўвагу сьвету на небяспечнасьць вайны з прычыны заграністай палітыкі Польшчы.

Есьць, кажа маніфэст, шырака пашыраны пагляд сярод народаў літоўскага і расейскага, што *польскі дыктатар Пілсудскі мяніцца зрабіць ваенны напад на Літву ў згодзе з брытанскім* Foreign Office. Кажуць аб перагаворах у справе патайнога паразуменьня, што мае на ўвеце (ўвазе) аддаць Нямеччыне як надгароду часьць польскага калідору.

Трэба зацеміць (зазначыць), што кожнае наступленьне Польшчы проці Літвы ўважалася-б Расеяй за пагрозу і што адносіны польска-расейскія пэўне якга зьмяніліся-б на непрыяцельскія. Гэта ўцягнула-б напэўна і іншыя гаспадарствы і небясьпечнасьць новай вялікай вайны эўропэйскай была-б вельмі вялікая.

Пад канец маніфэст кліча работніцкі сьвет, каб зьвярнуў на гэта пільнаю ўвагу і выразна дамагаўся ад урадаў, каб даставы амуніцыі або пагроза вайной сустрэліся ізноў із станаўкім супраціўленьнем як прад 4-ма гадамі, калі ня было дапушчана, каб Англія памагла Польшчы проці Расеі.

**Ліга Народаў.** Увага сьвету, а асабліва Эўропы, зьвернена цяперака на Лігу народаў, каторай агульная зборка будзе 2-га верасьня ў Жэнэве (Швайцарыя). Ня гледзячы на яе назоў, да Лігі Народаў не належаць Народы, але гаспадарствы.

Але і ня ўсе гаспадарствы належаць да Лігі Народаў. Не належаць да яе Злучаныя Гаспадарствы Паўночнае Амэрыкі, не належыць Нямеччына і ССРР, з азіяцкіх гаспадарстваў не належыць яшчэ Турцыя. Дык-жэ найважнейшым і першым пытаньнем сёлетняй зборкі Лігі Народаў будзе прыняцьце ў Лігу Нямеччыны. Гэтае пытаньне разглядалася ўжо сёлета на веснавой зборцы Лігі, але ня было тады разьвязана. Перашкодай увясну была тое, што Нямеччына дамагалася, каб разам із прыняцьцем у Лігу яна адна дастала заўсёднае месца ў *Радзе* Лігі. Гэта было Нямеччыне і абяцана вялікімі гаспадарствамі, але як толькі прыйшло да ўступу Нямеччыны ў Лігу, дык заўсёднага месца ў Радзе зажадалі сабе Гішпанія, Бразілія й Польшча. Бразілія навет улетку з гэтае прычыны выступіла зь Лігі Народаў.

Перашкода, што была ў вясну, асталася й дагэтуль. Каб выйсьці зь цяжкага палажэньня, рэарганізацыйная камісія Лігі пастанавіла павялічыць лічбу незаўсёдных месцаў у Радзе Лігі з дагэтуляшніх 6-ёх на 9. На гэтыя новыя незаўсёдны выбары...

# З падарожных зацемак.

**(Успаміны).**

(Гл. № 25).

За два месяцы адпачынку сярод чэскае правінцыяльнае гушчы я выняс шмат цікавых ураджаньняў. Чэхі значна розьняцца ад нашае беларускае масы.

Чэхія заселена надта густа. На 1 кв. клм. прыпадае 118,7 душ. Жывуць па невялічкіх вёсках і местах, а таксама хвальварках і хутарох.*) Працавітасьць і разумнасьць ужываньня вольнага часу надта характэрны Чэхам. Чэхі патрыёты. Даўгавекавы нямецкі і мадзьдзярскі ўціск навучыў як шанаваць сваю маладую рэспубліку. Даволі зьявіцца хоць маленькай небяспецы дзяржаве, як усе ад найлявейшых (ня выключаючы камуністых) да найправейшых, кідаюць хатнія спрэчкі і сваю флегматычнасьць і з запалам бароняцца ад непрыяцялёў. А трэба канстатаваць, што засільле нямецкае тут досыць вялікае і Чэхі ўпорна ходаюцца за свае права і мову.

У абыходжаньні сярод Чэхаў чуецца дэлікатнасьць і ўважнасьць да зацемак. І ня трэба зусім вялікіх пагрозаў, як гэта практыкуецца ў нас. Непарадкі караюцца грашыма, але гэта бывае рэдка. Парадак усюды проста ідэальны, як сьледамка нямецкае акуратнасьці. Сьлед нямецкае культуры на агул вялікі, але не выкарэнены зусім і славянскія рысы.

Сялянскія хаты вымураваны і пакрытыя чарапіцаю, іх акружае невялічкі садок і каменны плот з брамаю. У сярэдзіне хаты чысьціня і парадак, як у пакоі так і кухні. Сьцены прыбраныя пераважна гістарычнымі малюнкамі рэлігійнага і палітычнага зьместу (паленьне Яна Гуса, сьв. Яна Непамуцкага, Гаўлічка-Бароўскага).

Увагі варта чэская пасьцеля з мноствам пярынаў, якімі Чэхі накрываюцца як у зіму так і ўлетка.

Чэхі ашчадныя ў штодзенным жыцьцю, але надта ахвярныя й адзыўчатыя на агульнаю справу,

Рэлігія апошнімі часамі зусім губляе значэньне, асабліва па мястох, дзе можна знайсьці бязьверкаў. Сяляне-ж яшчэ ахвотна прыймаюць учасьце ў розных рэлігійных працэсіях. Лічба каталікоў пераважае протэстантаў, нацыянальнаю царкву і чэска-брацкаю.

Няпісьменных у Чэхаў нямаш, дзеля гэтага сьвядомасьць надзвычайная. Чэхі найкультурнейшыя за ўсе славянскія народы. У вапошні час адчуваецца перапрадукцыя інтэлігенцыі, якая шукае працы навет за межамі Эўропы. Амаль кожны вырослы належыць да якое небудзь палітычнае арганізацыі апрача прафэсыянальнае; кожны Чэх чытае газэту і журналы. Вось дзеля чаго выбары ў Сойм і Сэнат праходзяць зусім сьвядома і ўчасьце прымае 85% выбаршчыкаў.

Апранаюцца чэскія сяляне вельмі добра па вопратцы ад мястовага грамадзянства. Гарнітур, краватка, капялюх, зусім прыдае выгляд эўрапэйца. Жанчыны носяць таксама дужа прыгожую нацыянальную вопратку. Маюць Чэхі і сваю кухню, найболей вядомая яда „кнэдлікі" (варанае белае цеста з рознымі закрасамі).

Дзяцей Чэхі вельмі любяць. У малых гадох возяць у возіках, а трохі падрослых рана аддаюць у школу, каторыя ёсьць блізу што ў кожным сяле.

Народ чэскі надзвычайна дэмакратычны і іх Дэмакратычная Рэспубліка шмат каму можа служыць за прыклад. Земляробствам займаецца агулам да 40%, ля гарадоў разьвіта садоўніцтва, гародніцтва, разьвіта гаспадарка й лесавая.

Усе прыродныя багацьці ў Чэхіі выкарыстаны. Цікавы асабліва штучны развод рыбы ў копанях (саджалках). Дарожнае злучэньне, паштовае, і пераплаўнае ўдасканальнены апошнімі дасягненьнямі тэхнікі.

— — — — — — — — — — — —

(Далей будзе).

*Мікола Іль—іч.*

*) Чэхаславацкая Рэспубліка абвешчана незалежнай 28 кастрычніка 1918 г. пасьля доўгай і упорнай працы культурнае і палітычнае.

Займае Ч. С. Р. прастор 140.485 кв. к. і мае 13 604.807 жыхароў, з іх (статыстыка 1920 г.) Чэхаў і Славакаў 8.759.189, Немцаў 3.122.390, Украінцаў 500.000, Мадзяраў і іншых 1.042.889.

ныя месцы мелі-б быць абраныя памененыя тры гаспадарствы, пры гэтым пасьля трох год быцьця ў Радзе яны маглі-б быць абраны на нова. Польшча на гэта ахвотна пайшла-б але Нямеччына ня выказуе ахвоты прызнаць Польшчы незаўсёднае месца з правам новага абраньня. Літва так сама мае выступіць проці прыняцьця Польшчы ў Раду Лігі. Праўда, з Польшчай клопат не вялікі, бо пад націскам Англіі і Францыі яна згодзіцца на ўсё; цяжкая справа з Гішпаніяй.

*Гішпанія* апошнім часам зрабіла ўмову зь Італіяй у справе Тангеру. Тангер гэта невялічкая лапіна зямлі ў Марокку, каторая мае вялікае значэньне стратэгічнае. Дагэтуль Тангер лічыўся нэўтральным і быў пад адміністрацыяй камісіі, складзенай із прадстаўнікоў Францыі, Англіі і Гішпаніі пад старшынствам Француза. Цяпер Гішпанія дамагаецца Тангеру сабе, пры гэтым дае на выбар тры магчымасьці: 1) права собскасьці, 2) заўсёднага мандату і 3) часовага мандату ў залежнасьці ад таго, што яна дастане ў Лізе Народаў.

*Нямеччына* зазначыла, што нямецкая дэлегацыя паедзе ў Жэнэву толькі тады, калі будзе мець пэўнасьць, што Нямеччына дастане заўсёднае месца ў Радзе Лігі.

**Конгрэс нацыянальных меншасьцяў у Жэнэве.** Дзеля таго, што Ліга Народаў ня хоча бараніць нацыянальных меншасьцеў ад уціску, гэтыя самі пачалі арганізавацца паміж сабой. Сёлета 25—28 жніўня быў у Жэнэве 2-гі конгрэс нацыянальных меншасьцеў. З Польшчы прыймалі ўчасьце на конгрэсе Беларусы, Ліцьвіны, Украінцы, Немцы й Жыды. Ад Беларусаў быў пасол Ф. Ярэміч.

Дзеля таго, што з парадку дня конгрэсу было зьнята пытаньне аб тэрытарыяльным самаазначэню і незалежнасьці асобных народаў, Беларусы, Ліцьвіны і Украінцы вышлі з конгрэсу, астаючыся там толькі як сьведкі. Конгрэс прыняў рэзалюцыю, у якой дамагаецца, каб нацыянальныя меншасьці мелі школы ў роднай мове.

**ССРР** ня хоча належыць да Лігі Народаў, каб ня лучыць пад уплыў няпрыязных сабе дэмократычных гаспадарстваў. Каб-жа быць забясьпечанай, што гаспадарствы злучаныя ў Лізе Народаў або злучаныя рознымі ўмовамі, як лёкарнская і інш. не напалі на яго, ССРР імкнецца сам рабіць розныя „гваранцыйныя“ ўмовы. Гэтакаю ўмову запрапанаваў ССРР балтыцкім гаспадарствам Эстоніі і Лацьвіі, але пад варункам, што зь імі ня будзе Польшчы. Балтыцкія гаспадарствы пакуль што хістаюцца. З аднаго боку, ім патрэбна Польшча, каб бараніцца ад бальшавікоў, з другога боку, саюз із Польшчай можа борзда іх уцягнуць у вайну, бо Польшча мае шмат неразьвязаных пытаньнеў із сваймі суседзямі і ўнутры ў яе нягодна.

ССРР такжа імкнецца, стварыць пад сваім кіраўніцтвам новаю Лігу Народаў із азіяцкіх гаспадарстваў.

# Гаспадарскі адзьдзел.

### Аб таксе на пасьбішча.

Дзеля пытаньня чытароў рэдакцыя ў дапаўненьне зацемкі аб таксе за пасьбішча па тэрыторыі дзяржаўных лясоў белавескага надлясьніцтва падае да ведама, што выстаўленыя там цэны лічацца на паўгоду.

### Сёлетняе збожжа.

На віленскіх рынках зьявілася збожжа з новага ураджаю, прывезенае з Луцкага і Роўенскага павету.

— **Курс на грошы.** У Варшаве афіцыяльны курс 30.VIII. лічыўся 9 зал. 02 гр. за даляр. Рублі золатам—4.85, сірабром—3.25.

На чорнай гелдзе ў Вільні 23.VIII. плацілі за даляр 9 зал 10 гр.

## Найвялікшыя барбарызмы.

*„Беларуская Крыніца“* № 29: „беспасрэдны“, пасрэдна“—небел. словы; пабел. будзе—*беспасярэдні*, *пасярэдне* (прыраўнуй *сярэдні*).

„Настаяшчы“—маск., пабел.—*запраўдны*.

„Нэндза“ (арганісты засуджаны на нэндзу)—пол., яму адпавядае бел. *нуда*, але зь іншым значэньнем. Тутака трэба сказаць *галіта* (засуджаны на галіту).

„Сабіраць“—маск., пабел. — *зьбіраць*.

„Кіраўнічыя кругі... зьяўляюцца *староньнікамі* польскага праваслаўя“. Быць староньнікам чаго-колечы, значыць старанiцца, адхінацца ад чаго, чурацца чаго. Тут трэба сказаці *прыхільнікамі*.

Небеларускія хвормы: „Ксяндзам Палякам“ аместа належнага *Ксяндзом Палякам*, бо ў даваль-

в

ным склоне мн. л. імёны муж. і ніякага роду маюць *—ом*, калі націск ё на канчатку.

„Павінны аб гэтым *помніць*“—абмыла, а мае быць *помнець*. Дзеяслоў „помнець“ спрагаецца зусім так сама, як „сядзець“.

*„Голас Беларуса“* пішацца благой моваю і трэ' было-б шмат пісаці, каб адцеміць вялікшыя барбарызмы, але на гэта нямаш месца. Дык абмежуся некалькімі прыкладамі.

*„Голас Беларуса“* № 35: „адкормляваць, адкорм—маск.; пабел.—*у*кармляваць, *у*корм. „Прыём“, „прыёмны“ (экзамен і г. п.). Ад дзеяслова **jьмамь —jмьти* (бел. *маю—мецi* або, з аналёгічнай хвормаю неазначанае асновы, *маю—мацi*) маем у бел. мове імёны ніякага роду проці роду мускога некат. іншых слав. моваў. Гэтак проці маск. заем, чэск. zajem маем бел. *займо* (прыкладам займо поля, сенажаці), *наймо* (найміта), за „пераняцьце“, злаўленьне зьбеглае жывёлы даецца нагарода — *пераймо*. Дык так сама будзе *прыймо*, прым. *прыймовы*.

Пры лічбах два, тры, чытары ў бел. мове ўжываецца множны (а ня парны) лік імёнаў *мускога* роду: 2, 3, 4 валы, калы, вершы, чалавекі і г. д. А тымчасам „Г. Бел.“ ўжывае памаскоўску парны лік: два верш*а*, тры прадстаўнік*а*, чатыры чалавек*а* і г. п. Можна запамятаваць, што ў гэтым прыпадку ніколі ня можа быць на канцы *а*, але заўсёды—*ы*, *і*. За тое імёны жаноцкага і ніякага роду парны лік маюць: 2, 3, 4 назе, сасе, касе, рыбе, вакне, гумне (ад гумно) і г. д.

*Д-р Я. Станкевіч.*

## Прысылайце адрасы!

Просім нашых чытароў прысылаць нам як найболей адрасоў сваіх знаёмых, каб мы маглі паслаць на іх пробныя нумары нашай газэты.

*Адміністрацыя „Сял. Нівы“.*



## Клецкая Белар. Гімназія

**прыродна-матэм. тыпу, з прыгатавальнаю клясаю,**

даводзіць да ведама грамадзянства, што **прыймовыя экзамены** ў гімназіі на 1926—1927 шк. год адбудуцца ў днёх ад 1-га да 6 га верасьня.

**Заявы** аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі або апякуны. Да заяваў трэба прылучыць:

1) Мэтрыку аб нараджэньні вучня.

2) Пасьведчаньне аб прышчэпе воспы.

3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі вучня, калі ён да гэтага вучыўся ў якой школе

і 4) Фотографічную картку.

Тыя з паступаючых, якія маюць больш як 14 год, калі яны апошняе паўгодзьдзе ні ў якой школе ня вучыліся, павінны прадставіць яшчэ пасьведчаньне маральнасьці ад сьвяшчэніка, гміны, паліцыі ці староства.

Вучні пачаткавых школаў прыймаюцца ў адпаведныя клясы гімназіі бяз экзаменаў; пры гэтым IV адзьдзел пачаткавай школы раўнуецца да 1 кл. гімназіі; акончыўшыя аднак VII адзьдзелаў пачатковай школы могуць быць прыняты бяз экзаменаў толькі ў IV клясу.

**Уступная плата** да новапаступаючых: у I і II кл.—5 зал., у III і IV кл.—8 зал., у V, VI і VII —10 зал.

**Плата за навуку** на першае поўгодзьдзе ўстаноўлена ў I кл. 25 зал., у II кл. 60 зал,, у III кл. 75 зал., у IV кл. 90 зал., у V і VI кл. 100 зал. і VII кл. 125 зал. і можна выплачывацца памесячна, але абавязкава за месяц у перад.

Бяднейшыя вучні, асабліва вучні малодшых клясаў, могуць быць часткава або і зусім звольнены ад платы за навуку.

У прыгатавальнай клясе навука бясплатная.

**Заняткі** ў аснаўных клясах ПАЧНУЦЦА 6-га верасьня, а ў прыгатавальнай клясе—15-га верасьня.

**Дырэкцыя.**

## НАШАЯ ПОШТА.

**Конах Ян:** Газэту пасылаем, грошы прышлеце за месяц. Лісты пішэце як можаце і нікога ня бойцеся.

**Г. і С. Ясевічам:** Газэту пасылаем, грошаў крыху пачакаем.

**Дастана:**

ад: Васіля Казячага зь в. Залесься, Хвадзея Смолея, П. Лабоцкага з Кузьніцы—**па 2 залатоўкі.**

Ад Гуртка Бел. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў Сяменішках 1 зал., ад Сухоўскага Уладзімера 1 зал.

## Дзіўнае і сьмешнае.

### Чуваць, што:

**пану Савіцкаму**, старшыні Беларускага Нацыянальнага Камітэту ў Вільні, маюць госьці істраўні Брылінгавае падаць урачыстаю падзяку, за тое што ён іх вучыць гукаць памаскоўску. Наступная падзяка жджэ п. Заморына, прафэсара беларускае мовы ў Беларускай Гімназіі ў Вільні.

* * *

Паўлюкевіч мае напісаць другую самазванаю адозву, а віцэ-прэзэс „Рады“ Фр. Аляхновіч дасьць запярэчаньне, надпісанае чацьверным прозьвішчам, г. зн. правапісам польскім, беларускім, нямецкім, францускім, а можа і яшчэ якім. Дык чым мы горшыя за Гішпанцаў, што маюць па сем імёнаў?

* * *

**Пярэзвы.** Як ведама, Паўлюкевічава стацьця была надрукавана як перадавіца ў „Kurjery Wileńskim“. Цяпер чуваць, што Паўлюкевіч просіць п. Акуліча надрукаваць перадавіцу ў „Беларускім Слове“.

## АБВЕСТКА.

Надзвычайны Агульны Сход Сяброў Таварыства Беларускае Школы 8-га жніўня сёлета не адбыўся дзеля нястачы патрэбнага ліку сяброў. З гэтае прычыны 8 верасьня сёлета ў 4 гадзін дня ў памяшчэньні Таварыства — Віленская 12 — паўторна адбудзецца Надзвычайны Агульны Сход Сяброў які будзе правамочны пры якім любя ліку забраных сяброў.

Парадак дня той сам: 1) Рэарганізацыя Т-ва паводле нова зацьверджанага Статуту, г. з. дзеля выбару Галоўнае Управы і Нагляднае Рады; 2) бягучыя справы.

*Галоўная Управа Т-ва Бел. Школы.*

## РАЗЬЯСЬНЕНЬНЕ.

У № 25 газ. „Сялянская Ніва“ было зьмешчана паведамленьне (Стыпэндыі для беларускіх вучняў) Галоўнае Управы Т-ва Беларускае Школы аб тым, што ў 1926—27 школьным годзе пры Віленскай Беларускай Гімназіі адкрываюцца 15 стыпэндыяў для бяднейшых, але здольных да навукі вучняў-хлапцоў.

Галоўная Управа гэтым разьясьняе, што вышэй памянёныя стыпэндыі вызначаны толькі для вучняў ПЕРШАЕ КЛЯСЫ.

*Галоўная Управа*
*Т-ва Беларускае Школы.*

Вільня, 1926 г.

## НАВАГРАДЗКАЯ
## Беларуская 8-мі кл. Гімназія

**прырода-матэматычнага тыпу**

даводзіць да ведама грамадзянства, што прыймовыя экзамены вучняў на 1926—1927 школьны год у-ва ўсе клясы Гімназіі адбудуцца **ад 1-га да 10-га верасьня.**

Заявы аб дапушчэньні дзяцей да экзаменаў падаюць іх бацькі, або апякуны.

Да заявы трэба далучыць:

1) Мэтрыку аб нараджэньні вучня;

2) Пасьведчаньне доктара аб прышчэпе воспы;

3) Дакумэнты аб папярэдняй адукацыі, калі паступаючы вучыўся ў якой школе.

Жадаючыя паступіць у 8-ю клясу, або перавясьціся з іншай гімназіі ў гэтую клясу, павінны зьвярнуцца з просьбаю „Do Kuratorjum Okręgu Szkolnego Białostockiego w Białymstoku“ аб дазволе, прылучыўшы да паданьня вышэй абазначаныя дакумэнты.

Заняткі ў гімназіі пачнуцца 1-га верасьня.

Навука ў першай клясе бясплатна.

**Дырэкцыя.**

Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** Беларуская Друкарня ім Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.